# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года — Аўторак, 6 снежня 1994 года — № 131 (10831) — Цана 80 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## Дайце жыць дастойна

Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў прамысловасці Беларусі (АНПП), заклапочаная абвальным збядненнем працоўных, выступіла з заявай у адрас выканаўчай улады краіны. У ёй гаворыцца, што любыя дзеянні ўрада па павышэнню цэн, тарыфаў, камунальных паслуг недапушчальныя без папярэдняга павышэння заработнай платы і даходаў насельніцтва. На думку АНПП, меры сацыяльнай абароны, арыентаваныя выключна на найменш забяспечаныя слаі насельніцтва праз адрасныя выплаты і дапамогі, не даюць магчымасці кампенсаваць цэнавыя ўдары для большасці грамадзян рэспублікі, якія сталі беднякамі.

У сваёй заяве асацыяцыя запатрабавала ад прэзідэнта і Кабінета Міністраў прыняць указ або пастанову аб першачарговай выплаце заработнай платы да адлічэнняў у бюджэт і іншых абавязковых плацяжоў для прамысловых прадпрыемстваў. АНПП настойвае і на пераразліку спажывецкага бюджэту з улікам абвальнага падаражання жыцця, а таксама павелічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду да 70 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага кошыка.

Асацыяцыя заклікала ўлады да рэалізацыі прапанаванага ёю раней комплексу мер па ажыўленню вытворчасці. Гэтым, лічыць АНПП, будуць створаны ўмовы для павышэння ў 3—4 разы зарплаты на прамысловых прадпрыемствах краіны.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ З юбілеем!

## Свеціць "Нарачанская зара"

***Заўтра спаўняецца 50 гадоў з дня выхаду ў свет першага нумара мядзельскай раённай газеты "Нарачанская зара".***

За гэты час чытачы атрымалі 6.698 нумароў сваёй газеты. Менавіта сваёй, бо газета заўсёды была добрым сябрам і дарадцам, жаданым госцем у кожнай хаце. І журналісты чэрпалі натхненне ў зносінах з землякамі, з якімі яны падзялялі радасць і трывогі, друкаваным словам клікалі да лепшай долі. Не ўсё збылося, не ўсё атрымалася так, як хацелася б. Жыццё — не загадзя акрэсленая схема. Але калектыву рэдакцыі, які сёння робіць газету, журналістам, якія раней выпускалі яе, не сорамна глядзець людзям у вочы: яны жадалі ўсім дабра і светлай будучыні, не крывілі душой.

І, як напісаў калектыў "Мінскай праўды" ў прывітальным адрасе сваім калегам, **няхай заўсёды ўсім нам ярка свеціць "Нарачанская зара"!**

## Дывідэнды — з зарплатай

Кіраўнікам многіх прадпрыемстваў можна павучыцца ў "Беларускалія", як клапаціцца аб сваіх работніках у гэты складаны час. Сёння ў калійшчыкаў у параўнанні з іншымі даволі высокія заробкі. Ім непасрэдна на вытворчасць дастаўляюцца і прадаюцца па памяркоўнай цане адзенне, абутак, прадукты харчавання.

А яшчэ калійшчыкі атрымліваюць дывідэнды. Да апошняга часу — раз у год. Даволі буйныя сумы, але адчувальна "пагрызеныя" інфляцыяй. Каб павялічыць рэальныя даходы, савет прадпрыемства даў згоду на выдзяленне з лістапада бягучага года сродкаў з прыбытку на штомесячную выплату дывідэндаў у суме 25 працэнтаў ад месячнага фонду аплаты працы работнікаў "Беларускалія".

Супраць гэтага рашэння не выступіў ніхто з двух прафсаюзаў, якія звычайна не ўпускаюць нават дробнай нагоды для крытыкі, для пашырэння свайго ўздзеяння ў калектыве.

*(Наш кар.)*

## "Дэсант" наломіць дроў!

Некалькі груп воінаў Мар'інагорскага гарнізона "дэсантаваліся" ў мясцовыя лясы.

Іх задача — нарыхтоўка драўніны і забеспячэнне палівам маламаёмных, адзінокіх і састарэлых, спісы якіх складзены ў сельскіх і пасялковых Саветах. На першым этапе плануецца нарыхтаваць на "гарэльніках" паўтары тысячы кубаметраў дроў, якія будуць рэалізаваны па льготнай цане.

## Дзяржава вам дапаможа?

2,5 мільярда рублёў выдзелена для аказання дапамогі маламаёмным мінчанам. Дапамога будзе аказвацца тым, хто мае даходы на кожнага члена сям'і не больш чым 54 тысячы рублёў.

Для размеркавання дапамогі пры раённых выканаўчых камітэтах створаны камісіі, якія і будуць вызначаць памер дапамогі і парадак яе выплаты. Каб атрымаць дапамогу, неабходна звяртацца ў камісію па месцы жыхарства. Хаця, па праўдзе сказаць, наўрад ці істотна палепшыць дабрабыт маламаёмных гэтая субсідыя.

У складаным становішчы могуць апынуцца тыя, хто мае пастаянную патрэбу ў медыкаментах. Больш за 50 працэнтаў усіх выпісаных рэцэптаў у Мінску льготныя. Гэта значыць, што расходы на набыццё лекаў павінны пакрывацца з бюджэту. Сёння запазычанасць перад аптэчным упраўленнем за лекі ў Мінску складае каля мільярда рублёў. Адсутнасць абаротных сродкаў не дазваляе аптэчнаму ўпраўленню стварыць належны запас медыкаментаў.

## Цэны — жах!

Зараз мы назавём лічбы без каментарыяў. А вы ўжо самі рабіце вывады. Так, за дзесяць месяцаў (пакуль што навейшых даных няма) у Беларусі падаражалі:

| | |
|---|---|
| фрукты | —у 22,2 раза |
| малочныя прадукты | —у 22,1 раза |
| макаронныя вырабы | —у 20,4 раза |
| хлеб і хлебапрадукты | —у 20 разоў |
| агародніна | — у17,3 раза |
| крупы | —у 15,5 раза |
| мясныя кансервы | —у 13,1 раза |
| кандытарскія вырабы | —у 10,8 раза |
| мяса і птушка | —у 9,4 раза |

Калі ж параўноўваць кастрычнік з такім жа месяцам мінулага года, то цана бульбы ў рознічным гандлі ўзрасла ў 66 разоў, а на калгасных рынках — у 52, рэпчатая цыбуля — адпаведна ў 53 і 37, яблыкі — у 116 і 49, морква — у 43 і 38 разоў.

Такі ж імклівы рост цэн і на нехарчовыя тавары. У прыватнасці, на:

| | |
|---|---|
| бялізнавы трыкатаж | —у 29,5 раза |
| верхні трыкатаж | —у 15,3 |
| бытавыя электрапрыборы | —у 11,8 |
| мужчынскае адзенне | — у10,9 |
| жаночае і дзіцячае адзенне | —у 9,6 |

Кошт платных паслуг узрос з пачатку года ў 11,4 раза, плата за электраэнергію — у 18 і газ — у 16,6 раза, пасажырскі транспарт — у 13,3. Падаражалі ў 14,2 раза пуцёўкі ў санаторыі і дамы адпачынку. У параўнанні з дзесяццю месяцамі мінулага года кошт будматэрыялаў узрос у 31,3 раза. З іх на цэмент — у 25,8 раза, сценавыя матэрыялы — у 31,1 і на дэталі з драўніны і пліт — у 33,6 раза.

А цяпер прыкіньце, у колькі разоў павялічыўся за гэты перыяд ваш асабісты заробак. А нам жа ўвесь час гавораць, што рост цэн павінен адпавядаць росту зарплаты.

## Завод працуе на перспектыву

Нясвіжскі льнозавод, як і іншыя прадпрыемствы, перажывае нялёгкі час. Незбалансаванасць цэн на сыравіну нараджае шэраг фінансавых цяжкасцей. Як развівацца калектыву далей, на чым сканцэнтраваць увагу ў першую чаргу? Аб гэтым ішла размова старшыні аблвыканкома А.І.Цішкевіча з кіраўніцтвам прадпрыемства ў час яго наведвання ў мінулую суботу. Адзначалася, што на заводзе шмат чаго робіцца карыснага. У прыватнасці, наладжаны выраб кастрапліты, з якой тут робяць мэблю. Частку доўгага льновалакна пастаўляюць у некаторыя замежныя краіны, за што калектыў атрымлівае валюту. Жыццё на месцы не стаіць. Каб не загубіць такую выгадную галіну, як ільнаводства, трэба шукаць нестандартныя шляхі выйсця з тупіка. У прыватнасці, ёсць намер у абласнога кіраўніцтва закупіць для прадпрыемства новае абсталяванне ў Германіі для вытворчасці катаніраванага льновалакна. Гэтае валакно ў спалучэнні з бавоўнай дасць магчымасць наладзіць у Баранавічах выпуск новай прадукцыі. Ёсць намер павялічыць у 2 разы выпуск мэблі.

А.І.Цішкевіч цікавіўся жыццём калектыву. Даў шэраг карысных парад.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

■ Парламент: дзень за днём

## СЛУХАННЕ ЗАКОНА АБ ПРЭЗІДЭНЦЕ АДКЛАДЗЕНА

2 снежня парламент зрабіў спробу пачаць слуханне законапраекта «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». Яго распрацоўка пачалася па рашэнню Вярхоўнага Савета, які ўключыў гэтае пытанне ў парадак разгляду шаснаццатай сесіі.

«Працуючы над законам, мы, перш за ўсё, зыходзілі з таго, каб напоўніць больш канкрэтным юрыдычным сэнсам палажэнні Канстытуцыі аб прававым статусе і паўнамоцтвах прэзідэнта, характары і механізме яго ўзаемаадносін з іншымі галінамі дзяржаўнай улады, палітычнымі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі", — адзначыў Уладзімір Леўчык, прадстаўляючы падрыхтаваны Камісіяй па дзяржаўнаму будаўніцтву законапраект.

Ён паведаміў, што ў камісію паступіў таксама альтэрнатыўны праект прэзідэнта. На думку старшыні камісіі, другі праект канцэптуальна не дадае нічога новага ў варыянт камісіі, а некаторыя яго артыкулы ідэнтычныя нормам Канстытуцыі і напрацоўкам камісіі. У той жа час, на думку Уладзіміра Леўчыка, паміж праектамі ёсць і некаторыя адрозненні. Так, напрыклад, разыходжанні датычаць месца і функцыі Савета бяспекі і Адміністрацыі Прэзідэнта. У прыватнасці, парламенцкая камісія лічыць неабходным, каб састаў Савета бяспекі зацвярджаўся прэзідэнтам, але паўнамоцтвы СБ вызначаліся Вярхоўным Саветам. Прапануецца, што Савет бяспекі ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з асноўнымі напрамкамі ўнутранай і знешняй палітыкі, ваеннай дактрынай, якія вызначаюцца Вярхоўным Саветам. Згодна з альтэрнатыўным варыянтам, «Савет бяспекі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца вышэйшым калегіяльным каардынацыйна-палітычным органам, ствараемым у мэтах вызначэння палітыкі рэспублікі ў галіне бяспекі, абароны і ваеннага будаўніцтва, абароны суверэнітэту, правоў, свабод і бяспекі грамадзян, забеспячэння ўнутранага правапарадку і барацьбы са злачыннасцю. Састаў Савета бяспекі, а таксама палажэнне аб Савеце бяспекі зацвярджаюцца прэзідэнтам».

Якому ж варыянту аддаць перавагу, прыняць за аснову, дэпутацкі корпус так і не вырашыў. Высветлілася, што прадстаўляць законапраект прэзідэнта ў дадзены момант няма каму. Аляксандр Лукашэнка адсутнічаў на сесіі ў сувязі з выкананнем дзяржаўных абавязкаў. І, як паведаміў дэпутат Анатоль Лябедзька, Аляксандр Рыгоравіч папрасіў не разглядаць гэтае пытанне без яго ўдзелу. Абмеркаваўшы сітуацыю, Вярхоўны Савет прыйшоў да вываду прыпыніць слуханне.

Па прапанове шэрагу дэпутатаў быў прыпынены таксама разгляд законапраекта «Аб свабодных эканамічных зонах». Паўтара месяца таму назад пасля бурных дэбатаў ён быў прыняты ў першым чытанні. Аднак, як паказала галасаванне, дэпутаты так і не вызначыліся да канца: патрэбны ці не Беларусі свабодныя эканамічныя зоны? Некаторыя лічаць, што свабодныя эканамічныя зоны — адзін з элементаў унутранай і знешняй палітыкі дзяржавы. Ключавыя моманты гэтай палітыкі Вярхоўным Саветам пакуль не вызначаны, і таму ў данай сітуацыі будзе нелагічна пачынаць з прыватнай праблемы. Дэпутат Уладзімір Новік выказаў думку, што вышэйшы заканадаўчы орган не павінен устанаўліваць ільготы для замежных інвестараў у той час, калі дыскрымінацыі падвяргаюцца суб"екты гаспадарчай дзейнасці рэспублікі. Дэпутат Сяргей Папкоў падкрэсліў: для таго, каб уводзіць рыначныя адносіны, трэба развязаць рукі сваім прамыслоўцам, даць магчымасць прадпрыемствам працаваць на поўную магутнасць, знізіўшы падаткаабкладанне для беларускіх вытворцаў. Вынікам гэтых дыскусій стала прапанова, каб Камісія па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях яшчэ раз папрацавала над законапраектам.

Вярхоўны Савет разгледзеў і прыняў законы «Аб ветэрынарнай справе», «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету», «Аб аўтамабільных дарогах». Унесены змяненні і дапаўненні ў заканадаўства аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Наступнае пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета адбудзецца 19 снежня.

*БЕЛІНФАРМ.*

Нядрэнны ўраджай вырашчаны на «блакітнай ніве» ў Любанскім рыбгасе. З пачатку года рэалізавана 1115 тон сажалкавай рыбы: карпа, таўсталобіка, шчупака, плотвы, карасёў. У асноўным прадукцыя пастаўляецца да стала мінчан.

**НА ЗДЫМКУ:** загадчык участка №1 Уладзімір **АХРАМЕЙКА.**

*Фота Анатоля Басава.*



■ Погляд ад зямлі

## ЗАСЕЯНАЯ НІВА ДЫ ЗАКАЛАСІЦЦА

***Турбаза "Нёман", якая размясцілася ў маляўнічым кутку аднайменнага калгаса Стаўбцоўскага раёна, стала месцам правядзення двухдзённага семінара кіраўнікоў гаспадарак вобласці, які быў арганізаваны па рашэнню прэзідыумаў абласнога Савета калгасаў і абласной арганізацыі Саюза аграрнікаў. Семінар праходзіў як мерапрыемства па падрыхтоўцы да маючых адбыцца ў наступным годзе выбараў у Вярхоўны Савет.***

Той факт, што ў рэспубліцы ёсць сілы, якія штурхаюць наш аграпрамысловы карабель на рыфы з мэтай поўнага развалу, сёння ў працаўнікоў вёскі не выклікае сумнення. Але гэты курс — гэтак жа адназначна можна сказаць — вёска не прымае. Таму на парадак дня семінара і былі вынесены самыя актуальныя, з пункту гледжання вышэйпамянёных прэзідыумаў, а таксама Аграрнай партыі Беларусі, пытанні: аграрная рэформа і шляхі выхаду АПК з крызісу (дакладчык — сустаршыня Аграрнай партыі Беларусі, член-карэспандэнт АН РБ, доктар эканамічных навук С.Г.Шарэцкі), Канцэпцыя развіцця вёскі ў сучасных грамадска-палітычных умовах (дакладчык — доктар філасофскіх навук, прафесар І.К.Галко).

Пра задачы аграрнікаў вобласці ў сувязі з надыходзячымі выбарамі ў Вярхоўны Савет рэспублікі гаварыў сакратар Палітсавета Аграрнай партыі В.С.Яфімаў. Бачанне шляхоў рэфармавання АПК кіраўніцтвам аблсельгасхарча (а значыць, і кіраўнікамі Мінсельгасхарча, урада рэспублікі) выклаў намеснік старшыні абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і прадуктах харчавання Л.В.Русак. Свой вопыт пошуку рацыянальных шляхоў рэфармавання ўнутрыгаспадарчых узаемаадносін у калгасе асвятліў старшыня калектыўнай гаспадаркі добраахвотна аб"яднаных сялян «Палачаны» Маладзечанскага раёна А.У.Мучынскі.

Зразумела, што шматгранная праблема, якая стаіць перад аграрнікамі вобласці, ды і рэспублікі ў цэлым, не магла не выклікаць разнастайнасці падыходаў да яе разгляду, несупадзення вывадаў. І ўсё ж дакладчыкі С.Г.Шарэцкі, І.К.Галко, В.С.Яфімаў, а таксама практычна ўсе выступіўшыя ў абмеркаванні пастаўленых пытанняў (як у першы, так і ў другі дзень)былі аднадушныя ў тым, што калгасы, як форма гаспадарання на зямлі, не зжылі сябе. Іх калектывы самі знойдуць рацыянальныя шляхі перабудовы і развіцця сваіх унутраных і знешніх узаемаадносін. Справа ў тым, што, працуючы ў калгасе, вясковы чалавек значна лепш сацыяльна (а пенсіянеры — матэрыяльна) абаронены, чым аднаасобнік. Калектыўная гаспадарка мае больш шырокія магчымасці для дынамічнага развіцця і ў рыначных умовах. Разуменне людзьмі гэтай акалічнасці стымулюе дысцыпліну працы.

Гаворачы пра зямлю, дакладчыкі і выступаўшыя выказвалі практычна аднадушнае разуменне немэтазгоднасці падзелу сельскагаспадарчых угоддзяў калгасаў. Асабліва ворыва. Нават не таму, што згодна з існуючым заканадаўствам зямля з"яўляецца дзяржаўнай уласнасцю. Самі сяляне прызнаюць, што некалі значна лягчэй было яе абагуліць, чым сёння раздзяліць. Падзел, калі ён пачнецца, не абыдзецца без самых цяжкіх узрушэнняў у вёсцы, якія будуць мець негатыўныя вынікі для некалькіх пакаленняў.

У другі дзень работы семінара размова зайшла і пра яго вынікі. Было выказана меркаванне, што семінар прынёс бы яшчэ больш карысці, калі б быў прыняты яго падагульняючы дакумент. Разглядаючы гэтае пытанне, прысутныя сышліся на думцы, што сёння аграрнікі вобласці маюць такі дакумент. Гэта апублікаваная ў «Мінскай праўдзе» (№№ 97, 98, 100, 101, 103 за г.г.) Канцэпцыя развіцця вёскі.

Станоўчым вынікам работы гэтага сходу аграрнікаў трэба прызнаць і тое, што ўсе, хто на ім прысутнічаў, вынеслі для сябе непахіснае разуменне неабходнасці яднання аграрнага руху як найбольш канструктыўнай плыні ў нашым грамадстве з шырокімі масамі працоўных не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе, бо гэта — найбольш рэальны шлях перамогі Аграрнай партыі Беларусі на маючых адбыцца выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі.

*Іван АБАБУРКА,*
*аглядальнік "Мінскай праўды".*



## ... А цягнікі хадзілі

Ні на хвіліну не парушыўся графік руху цягнікоў у раёне станцыі Барысаў, хоць прычына для гэтага была больш чым уважлівая.

Выпадкова ля самага чыгуначнага палатна былі знойдзены міны ад савецкіх мінамётаў часоў Вялікай Айчыннай вайны. Гадаць, адкуль яны тут з'явіліся, работнікі магістралі не сталі, выклікалі сапёраў.

Група размініравання маёра Сяргея Баліцкага за некалькі гадзін пералапаціла тоны грунту і выняла 183 артылерыйскія снарады і міны рознага калібру. Сапёры працавалі настолькі ювелірна і надзейна, што чыгуначнікам не прыйшлося ўносіць непажаданыя карэктывы ў графік руху цягнікоў, які на гэтым участку вельмі інтэнсіўны.

## Дызентэрыя ў садку

Напрыканцы мінулага тыдня ў Барысаўскую інфекцыйную бальніцу паступіла адразу 27 дзяцей і нянечка з дзіцячага садка №45 з дыягназам "вострае кішэчнае захворванне". Некаторыя дзеці былі дастаўлены ў лячэбную ўстанову ў цяжкім стане, таму мясцовым медыкам давялося літаральна змагацца за жыццё і здароўе юных пацыентаў. На дапамогу гарадскім урачам неадкладна прыбылі спецыялісты са сталіцы, а Міністэрства аховы здароўя выдзеліла гораду патрэбныя медыкаменты.

Як паведаміў галоўны ўрач гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Аляксандр Спіркоў, дзякуючы аператыўнаму правядзенню неабходных лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў сітуацыю ўдалося стабілізаваць, стан здароўя хворых паляпшаецца. Прычынай масавага захворвання дзяцей спецыялісты лічаць парушэнне правіл санітарна-гігіенічнага рэжыму па харчблоку дзіцячай установы, а ўзбуджальнікам хваробы стала дызентэрыйная інфекцыя.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

**Крымінал**

### ЗАЛАТАЯ ЛІХАМАНКА

Бандыцкі налёт учынены на кватэру бухгалтара малога прадпрыемства ў Савецкім раёне сталіцы. Тры грамілы ўзламалі дзверы. Не стаў перашкодай для ажыццяўлення злачыннай задумы і хлопчык-дзевяцікласнік, сын гаспадароў — яго бязлітасна ўдарылі металічным прадметам па галаве. Мэта візіту, як высветлілася, — завалодаць залатымі рэчамі. Што, на жаль, налётчыкам і ўдалося ажыццявіць.

У Барысаве — такое ж злачынства. Пацярпела маладая жанчына, якая знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску. З пацярпеўшай абышліся без фізічнага насілля, забралі толькі шэсць залатых вырабаў. Мясцовыя пінкертоны абяцаюць злавіць грабежнікаў, «на кручку» ў іх падазраваемы саўдзельнік.

### НЕГАБАРЫТНАЯ АВАРЫЯ

«Жыгулі» адляцелі ад магутнага «КрАЗа» быццам пушынка. З пяці пасажыраў у жывых засталіся трое. Ды і тыя з цяжкімі траўмамі трапілі ў бальніцу.

Што ж здарылася на трасе недалёка ад вёскі Зарэчча Бярозаўскага раёна? Шафёр Мінскай ПМК-150 трэста «Спецсельбуд» вёз негабарытны груз. Пры сустрэчным раз"ездзе зачапіў «Жыгулі». У прынцыпе — стандартная дарожная сітуацыя, але, відаць, нездарма кажуць: ад смешнага да трагічнага — адзін крок.

### У ПАКЕЦЕ ТЫМ ЛЯЖАЛА... БОМБА

Знаходцы віцэ-прэзідэнт акцыянерна-вытворчай фірмы яўна не ўзрадаваўся — пад дзвярыма ў цэлафанавым пакеце ляжала... выбуховае ўстройства. Хоць самаробнае, але ад гэтага не менш небяспечнае: націскнога дзеяння, сілкавалася ад батарэйкі. У Савецкім райаддзеле міліцыі, куды звярнуўся за дапамогай сталічны бізнесмен, не адважыліся забраць бомбу. Гэтую нялёгкую задачу выканаў падпалкоўнік А.Сталяроў, начальнік штаба грамадзянскай абароны раёна. Выбуховае ўстройства накіравана спецыялістам для даследавання.

### ДОЛАРЫ НА РУБЛІ — НЕ ГЛЕДЗЯЧЫ

Сумна завяршылася здзелка для дырэктара малога прадпрыемства. Ён меў намер абмяняць 96 мільёнаў «зайцоў» на «зялёныя». Знайшліся і кліенты. Калі сабраліся на кватэры па вуліцы Несцерава, каб ажыццявіць грандыёзны план, здарылася непрыемнасць. Выкарыстоўваючы сілавую перавагу і не жадаючы расставацца з доларамі, «кліенты» вельмі спакойна забралі мільёны, хуценька і паспяхова зніклі. І сапраўды, цяпер работы ў сышчыкаў Заводскага раёна — на мільёны.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ АПК і рынак

# Калгас — адна апора для сялянства,

## лічыць старшыня Генадзь Кучко

**Сёння лічбы не стамляюць, асабліва калі яны канстатуюць нейкія пазітыўныя з'явы ў нашым далёкім ад станоўчага ідэалу жыцці. Вось чаму старшыня калгаса "XXI з'езд КПСС" Генадзь Мечыслававіч Кучко называе іх са зразумелым гонарам. Дык вось: ураджай збожжавых — 40,2 цэнтнера, караняплодаў — больш чатырохсот, бульбы — 202, гадавы надой малака на карову — 4 тысячы... Пералік гэты можна прадоўжыць. Адметна тое, што ўсе асноўныя вынікі сельскагаспадарчага года — лепшыя ў Вілейскім раёне. А добрыя вынікі — значыць, добры кіраўнік. Магчыма, таму Генадзю Мечыслававічу як аднаму з лепшых старшынь вобласці выпала ўдзельнічаць у вывучэнні практычнага вопыту ўкаранення новых форм гаспадарання ў калгасе "Камінтэрн", што на Магілёўшчыне.**

**Аб гэтай паездцы, аб тым, куды сёння ідзе калгасны лад і да чаго прыйдзе, — гутарка нашага карэспандэнта Марыі Кузаўкінай са старшынёй калгаса "XXI з'езд КПСС" Вілейскага раёна Генадзем КУЧКО.**

***— Вы назвалі лічбы, якія сведчаць аб тым, што патэнцыял калгаснага ладу яшчэ не вычарпаны. У такім выпадку, ад каго і ад чаго ён залежыць?***

— Гэта даволі-такі аб'ёмістае пытанне. Каб пералічыць усе фактары, што ўплываюць на вытворчасць, вам паперы не хопіць. Але галоўнае — людзі, правільны падбор іх і расстаноўка. І тут нічога новага нам не прыдумаць. Я, напрыклад, смела магу сказаць, што спецыялісты ў нас — на вышэйшым узроўні. Цалкам давяраю ведам і вопыту галоўнага агранома Віктара Драгулоўскага, галоўнага інжынера Анатоля Кавалёнка, галоўнага энергетыка Мар'яна Садоўскага.

***— Не ведаю, наколькі сучасным з'яўляецца ваш пункт погляду. Сёння ўсё больш заклікаў даверыцца векавой мудрасці селяніна, яго інтуіцыі, геннаму вопыту. Маўляў, дайце селяніну зямлю, а ён ужо сам ёю распарадзіцца па свайму ўменню і разуменню...***

— Ніколі не клапаціўся аб тым, як ацэняць маю пазіцыю іншыя. Бо куранят сапраўды ўвосень лічаць. І вынікі сельскагаспадарчага года гавораць самі за сябе. Пакуль мы вядзём размову аб буйной вытворчасці, якой і з'яўляецца калектыўная гаспадарка.

***— Памятаю, гады з два назад мы з вамі сустракаліся і таксама гаварылі і аб лёсе зямлі, і аб перспектыве развіцця калгаса. Былі ў вас думкі стварыць на яго месцы акцыянернае таварыства, а калгаснікаў зрабіць акцыянерамі.***

— Гэтыя ваганні былі своеасаблівай данінай модзе. І спробай знайсці пралаз у палітыцы фермерызацыі сельскай гаспадаркі, якую нам імкнуліся навязаць, на скорую руку перабудаваўшыся, палітыкі.

***— І сёння вы адышлі ад тых настрояў?***

— Лічу, што ў нас пакуль мяняць нічога не трэба. Гаспадарчы разлік, на яго ў нас пераведзены ўсе вытворчыя падраздзяленні, робіць сваю справу. Людзі ўмеюць лічыць капейку, людзі ведаюць, што іх набытак залежыць толькі ад вынікаў. Вось і ўся тут мудрасць. На гэты час самая прыбытковая для калгаса — вытворчасць малака. Тут мы маем жывую капейку. А вось вытворчасць свініны для нас нявыгадная. І гэта ў гаспадарцы, якая мае рэпрадуктарны свінагадоўчы комплекс. Ён некалі быў разлічаны на 24 тысячы галоў парасят у год. Цяпер мы дайшлі толькі да сямі тысяч. І вымушаны пастаянна скарачаць вытворчасць. Няма грошай у гаспадарак. Не ідзе наш тавар. Ды і цэнавая палітыка, пра якую мы літаральна крычым на ўсіх скрыжаваннях. А дзе карысць? Чацвёртага лістапада прадалі мясакамбінату 10 тон свініны, а пятага — цэны выраслі. Страцілі мільёны. Крыўдна? А што рабіць?

***— А вам не здаецца, што жаданага парытэту цэн дасягнуць проста не ўдасца? Горад гэтага не вытрымае. І тады непазбежны сацыяльны выбух...***

— Мы не пракоі. Але ўсё можа быць. Ужо сёння гараджане адмаўляюцца набываць мэблю, адзенне, абутак, абыходзяцца мінімумам. Грошы ідуць на харчаванне. Цяжка ўявіць, што і яно можа стаць не па кішэні...

***— Мінсельгасхарч рэспублікі распрацаваў праграму стабілізацыі і развіцця агракомплексу і рынку прадуктаў харчавання на пяцігодку. Яна яшчэ не зацверджана Кабінетам Міністраў і не падмацавана заканадаўча. Але на месяцах ужо абмяркоўвалася. Як вы ставіцеся да яе палажэнняў?***

— Праграма досыць аб'ёмістая для таго, каб рабіць яе аналіз. У цэлым хачу сказаць, што асаблівай навізны ў ёй няма. Згрупаваны ў адно цэлае ранейшыя эпізадычныя спробы вывесці сельскую гаспадарку з крызісу.

***— Ну а прыватная ўласнасць на зямлю? Яна прадугледжана праграмай.***

— Так, у праграме значыцца, што вытворчыя адносіны, існуючыя сёння ў вёсцы, перашкаджаюць развіццю прадукцыйных сіл: перадумова для сацыяльнай рэвалюцыі, для змены форм уласнасці. Я не супраць: няхай у нас будуць фермеры. Але як у такім разе прадумаць сістэму сацыяльнай абароны для тых, хто па свайму фізічнаму стану непрыгодны для такой работы? Мне даводзілася чуць нават ад кіраўнікоў высокага рангу: няхай самі пра сябе паклапоцяцца...

***— Па прынцыпу: кожны выжывае ў адзіночку. Але ж семдзесят год назад грамадства пазбавіла селяніна ўласнасці, пакінуўшы яму для карыстання толькі хаціну ды падворак. І ўвесь гэты час ён працаваў за працадні, мізэрную натураплату.***

— Вось гэта і крыўдна. Крыўдна, калі нас называюць чырвонымі памешчыкамі і думаюць, што мы баімся страціць кіраўніцкія пасады. Мы проста душой хварэем за селяніна, якому калгас заўсёды быў апорай. Які б ні быў старшыня, а да яго ідзе бабуля па каня, паліва, матэрыяльную падтрымку, калі кладзе ў дамавіну кагосьці з блізкіх.

***— Палітычна і эканамічна свабодны селянін — ёсць у праграме такі тэзіс, як канчатковая мэта рэалізацыі намечанай палітыкі. Гучыць даволі-такі дэкларатыўна. Ці ў вас свая думка на гэты конт?***

— Эканамічная свабода, — я зыходжу з яе, — гэта свабода мець працу, мець магчымасць прыкласці свае здольнасці і атрымаць аддачу. У рэшце рэшт, гэта і права ўласнасці. Я ўпаўне згодны з палажэннем наконт здачы зямлі ў арэнду на доўгі тэрмін, год на 90.

***— Маецца на ўвазе, — вытворчым калектывам?***

— Так, гэта дасць гарантыю яе правільнай эксплуатацыі. Але ў любым выпадку зямля павінна быць дзяржаўнай уласнасцю. Спекуляцыя зямлёй — гэта наймярзотнейшы від спекуляцыі. А ёю сёння многія хочуць заняцца, як толькі выйдзе закон аб прыватнай уласнасці. Думаю, не трэба прыводзіць прыклады заняпаду фермерскіх гаспадарак. Кажуць, людзі заняліся не сваёй справай... Магчыма, некаторыя і не сваёй. Але многія бралі зямлю ў надзеі сарваць за яе барышы. Хіба права працаваць на зямлі і мець ад яе аддачу не гарантуе селяніну эканамічнай свабоды? А што датычыць палітычнай, дык быццё заўсёды вызначала свядомасць...

***— Вы вывучалі вопыт, можна сказаць, узорнай гаспадаркі. Што ўзялі з яго для сябе, што можаце параіць узяць на ўзбраенне сваім калегам?***

— Узбройвацца, скажу вам шчыра, асабліва няма чым. Гаспадарка прыгарадная. Таму з шасцісот працуючых большасць — наёмныя работнікі, гараджане. Яны карыстаюцца тым метадам арганізацыі працы, ад якога мы некалі адмовіліся. Памятаеце, разгалінаваная сетка кааператыва: кааператыў раслінаводства, жывёлагадоўлі, забеспячэння, перапрацоўчы. Кожная брыгада — кааператыў. Адзін аднаму прадаюць, адзін у аднаго купляюць... Пры гэтых кааператывах — кааператывы падсобныя: швейны, сталярны, зверагадоўчы. У іх працуюць гараджане. Афарміліся пры калгасе, каб не плаціць падатак дзяржаве.

Я, напрыклад, не разабраўся, якая ў калгасе заработная плата. Пры знаёмстве старшыня сказаў: 150 долараў. Аказалася, гэта ў яго.

Клуб прадалі, дзіцячы сад закрылі, школе не дапамагаюць. Адасобленасць ад сацыяльных праблем, па ўсім відаць, становіцца небяспечнай модай часу. Магчыма, так лягчэй выжыць. Але інстынкт выжывання больш уласцівы неразумным істотам. Чалавек жа павінен яшчэ думаць, як жыць. Асабліва той, які надзелены пэўнай уладай і паўнамоцтвамі.

***— Ёсць думка, што 20 працэнтаў гаспадарак абанкруцяцца ўжо к новаму году: астатнія — да вясны. Я не разумею, што такое калгас-банкрут. Вернемся да саракавых гадоў? Па руках пойдзе інвентар, фермы, жывёла... Але як гэта будзе практычна рабіцца? Прапанаваная праграма толькі яшчэ абмяркоўваецца. З-за адсутнасці адпаведнай заканадаўчай базы яе яшчэ проста немагчыма прыняць. А жыць людзям трэба сёння. І ў нешта верыць, на нешта спадзявацца...***

— А давайце не ўпадаць у паніку. Гаварылі, гэтай вясной не пасеемся — пасеяліся. Гаварылі, восенню не ўбяромся — убраліся. Будуць нейкія крэдыты, знойдуцца ў дзяржаве разумныя галовы — выжывем. Мы яшчэ не ведаем да канца, які запас трываласці ў нашых калектыўных гаспадарак, які патэнцыял жыццёвага вопыту і практыцызму ў нашых людзей.

# ВЫХАД МОЖНА ЗНАЙСЦІ,

## калі ёсць у гэтым зацікаўленасць

Раней з канвеера Прымінскага рамонтнага завода штомесяц сыходзілі да сотні капітальна адрамантаваных трактароў "Т-150". А сёлета за тры кварталы іх паступіла на рамонт усяго толькі каля шасці дзесяткаў. Падзенне аб"ёмаў асноўнай вытворчасці пачалося на прадпрыемстве не сёння. Яшчэ год-паўтара таму назад перад адміністрацыяй паўстала дылема: скарачаць кадры ці шукаць для іх новую работу? Дырэктар Віктар Мікалаевіч Радзюк сам жыве ў Лошніцы і добра ведае, што знайсці яе ў пасёлку людзям будзе немагчыма. Ды і ўвогуле разбураць калектыў, пакідаць па-за прахадной класных спецыялістаў проста неразумна, не па-гаспадарску.

Як бы там ні было, а выхад знайшлі. Ён бачыўся ў пашырэнні асартыменту выпускаемых прадпрыемствам тавараў народнага спажывання, у распрацоўцы і асваенні новых відаў прамысловай прадукцыі.

— Мы заняліся металаапрацоўкай і штампоўкай, — расказвае галоўны інжынер завода Анатоль Кукін, — а таксама асваеннем пагрузачных машын і механізмаў па распрацоўках канструктараў з Краснадарскага краю.

Яны агрэгатуюцца з трактарамі "МТЗ-80/82" і маюць некалькі зменных рабочых органаў. Так, напрыклад, вілачны захоп можа выкарыстоўвацца для пагрузкі сена, саломы, сенажу і сіласу. Асобныя вілы прыстасаваны для пагрузкі рулонаў. Грэйфер прызначаны для сыпкіх грузаў. Ёсць спецыяльнае прыстасаванне і для пагрузкі-разгрузкі лесу і піламатэрыялаў. Такіх машын ужо выраблена каля сотні. Разам з тым вядуцца работы па ўкараненню ў вытворчасць прычапной пагрузачнай машыны. Заводскія канструктары распрацавалі прычэп з маніпулятарам.

Паспяхова прайшоў выпрабаванні і добра зарэкамендаваў сябе ў рабоце універсальны чызельны агрэгат "АЧУ-2,8", які навешваецца таксама на трактары "МТЗ-80/82". Сфера яго прымянення — рыхленне глебы і культываванне зябліва, раздзелка пласта шматгадовых траў, нарэзка грабянёў пры пасадцы бульбы, даўсходавае баранаванне пасеваў з апрацоўкай глебы ў міжрадкоўях, акучванне бульбы. Для гэтых відаў работ агрэгат камплектуецца наборам зменных лап. Праходзіць выпрабаванні прычапны інвентар для трактара "МТЗ-220".

Варта адзначыць, што рамонтнікі доўгі час падтрымліваюць дзелавыя партнёрскія адносіны з мінскімі трактарабудаўнікамі. Яны вырабляюць для МТЗ масленыя радыятары, фільтры, выконваюць іншыя заказы. А апошнім часам такія ж партнёрскія адносіны ўсталяваліся і з Мінскім маторным заводам. Для яго ў Лошніцы рыхтуецца вытворчасць паветрападводзячага тракту да рухавікоў "Д-260", што ідуць на беларускія аўтобусы, а таксама дарожнабудаўнічай тэхнікі канцэрна "Амкадор".

Праходзячы па цэхах завода, я не ўбачыў нічога незвычайнага: кожны быў заняты сваёй канкрэтнай справай. На адным участку збіралі адрамантаваны трактар "Т-150", а на другім навешвалі на новы "МТЗ" выраблёнае сваімі ж рукамі пагрузачнае прыстасаванне. На складзе гатовай прадукцыі чакалі адпраўкі дрэваапрацоўчыя станкі і каробкі перамены перадач для піларамы, франтальныя пагрузчыкі і прыстасаванне для тралёўкі лесу, каларыферы розных мадыфікацый, акучнікі, доследны ўзор аднарадковай бульбасаджалкі, якая, несумненна, знойдзе прымяненне ў фермерскіх гаспадарках.

Вырабляюцца на заводзе і тавары народнага спажывання — прышчэпкі для бялізны, дзвярныя завесы. Асвоены выпуск фільтраў для ачысткі паветра і масла ў аўтамабілях "ГАЗ", "ВАЗ", "Масквіч", а таксама некаторых іншых патрэбных людзям рэчаў.

*Мікалай ЧАПЕЙ.*



*У тым, што ўсе службы Нясвіжскай райаграпрамтэхнікі працуюць рытмічна, немалая заслуга дыспетчара Галіны **ПАЗНЯК** (на здымку).*

*Фота Анатоля ФРАНЧУКА.*

■ Экалогія

# ГАСПАДАР СЛОВА,

## якое трэба разумець наадварот

У наш час знаходзяцца аматары перайначваць афарызмы Казьмы Пруткова. Гэтыя людзі, так сказаць, прыстасоўваюць іх да нашай рэчаіснасці. Ну вось, напрыклад, дырэктар калектыўнай гаспадаркі таварыства з абмежаванай адказнасцю «Паліфакт-агра» Я.Д.Будзінас. Вядомы афарызм «не вер вачам сваім» ён цяпер вымаўляе так: «Не вер словам маім».

А прычына вось у чым. Дапаможная гаспадарка «Паліфакт-агра», якая зарэгістравана, як і патрабуецца, у райвыканкоме, размясцілася на плошчы 150 гектараў на тэрыторыі калгаса «Навапольскі», у вёсцы Пціч. Дык вось, калі стаяла пытанне аб выдзяленні зямлі, кіраўнік гэтай гаспадаркі Я.Д.Будзінас клятвенна запэўніваў улады і прыродаахоўныя органы, што ўсе патрабаванні гаспадарання на зямлі, у тым ліку і экалагічныя, будуць ажыццяўляцца на вышэйшым узроўні.

Вядома, зямлю атрымалі. І вырашылі на ёй пабудаваць лазню. Аднак праект трэба было ўзгадніць з раённай інспекцыяй па экалогіі. Яна не дала «зялёнае святло» на ўзвядзенне аб'екта. Па той прычыне, што лазню планавалася размясціць у прыбярэжнай зоне ракі Пціч.

Кіраўнікі гаспадаркі пайшлі на падман.

— Лазня нам не патрэбна, — заявілі яны. — Пабудуем гасцёўню.

І пабудавалі... лазню. Ды яшчэ якую! Яе інтэр'ер нагадвае сапраўдны палац, простаму смяротнаму ў які не трапіць... А пытанням экалогіі — нуль увагі. Для сцёкаў выкапалі звычайны катлаван. Добра, што хоць праклалі трубу да яго. Ніхто не клапоціцца пра ўтылізацыю тых сцёкаў. Таму шлях іх — прама ў раку.

Словам, тут праігнаравалі тое кардынальнае патрабаванне, што ўсялякае бытавое і гаспадарчае будаўніцтва ў прыбярэжнай зоне вадаёмаў катэгарычна забаронена. І побач з лазняй узвялі кухню, а каля яе ўтварылі звалку з адходаў прадуктаў харчавання, бытавога смецця. І, прабачце, здалі ў «эксплуатацыю» прыбіральню.

Ёсць і прыклады іншага характару. Так, каля 20 тон хлорыстага калію і 10 тон азотазмяшчальных угнаенняў захоўваюцца на непрыстасаванай пляцоўцы побач з паніжэннем. Дажджавая вада змывае гэтыя рэчывы ва ўпадзіну. Адтуль ім адзін шлях — у Пціч. Гэта атручвае раку, прычыняе шкоду яе насельнікам.

Можна толькі вітаць, што ў гаспадарцы займаюцца жывёлагадоўляй. Ёсць свая ферма. Дык вось, пры ўзгадненні праекта на яе будаўніцтва раённая інспекцыя па экалогіі прадпісала адначасова ўзвесці і гнаясховішча. Але дзе там: ферма ўжо пачынае разбурацца, а сховішча для гною і жыжкі як не было, так і няма.

А вось будаўніцтва катэджаў вядзецца поўным ходам. Тут ніякіх затрымак. Безумоўна, для гэтага патрэбны розныя матэрыялы. І кіраўніцтва «Паліфакт-агра» знайшло «выйсце» са становішча: без узгаднення з адпаведнымі органамі ў водаахоўнай зоне адкрыла кар'ер.

Для вядзення будаўніцтва патрабуецца і шмат піламатэрыялаў. І гэтае пытанне таксама «вырашылі» без прамаруджання — пабудавалі і запусцілі цэх па перапрацоўцы драўніны. Але зноў з грубымі парушэннямі патрабаванняў экалогіі.

Вось і лічыце, ці можна пагадзіцца з абяцаннямі кіраўніка калектыўнай гаспадаркі «Паліфакт-агра» Я.Д.Будзінаса наконт таго, што ён будзе па-гаспадарску ахоўваць навакольнае асяроддзе, клапаціцца аб прымнажэнні багаццяў прыроды

*Іван ГРЫБКО,*
*начальнік інспекцыі*
*Пухавіцкага раёна па экалогіі.*

*Мікалай ГРЫГАРОВІЧ,*
*наш няштатны карэспандэнт.*

■ Прошу слова

# ПОД ОДНУ ГРЕБЕНКУ

В последнее время много говорится и пишется о льготниках. Выносятся разные суждения, предположения и проекты. И приходится только удивляться тому, как легко и просто господа из Кабинета Министров нашли 44 миллиарда рублей для проведения в жизнь реформ. Они не постеснялись даже заглянуть в полупустые карманы инвалидов войны. Похоже, это именно они "подсунули" молодому президенту информацию, что в республике более 5 миллионов льготников, и тем самым ввели его в заблуждение.

Создается впечатление, что господа, подписавшие проект-предложение, даже не потрудились разобраться с проблемой льгот. Они собрали, как говорится, в одну кучу и льготы ветеранов, и должностные и служебные привилегии некоторых категорий граждан. И кричат на всю республику: пора их отменить!

Ветераны — люди неглупые, они прекрасно понимают, что республике трудно сегодня и нужно экономить буквально на всем. Но поступать при этом следует разумно и продуманно.

Сейчас в республике около 300 тысяч настоящих фронтовиков, примерно 200 тысяч человек, приравненных к участникам войны, но не служивших в действующей армии, около 1,5 миллиона ветеранов труда и Вооруженных Сил. И более 3 миллионов граждан, преимущественно молодых, которые имеют привилегии, установленные постановлениями правительства и различными ведомствами. Так вот, на наш взгляд, было бы разумно в первую очередь упорядочить эти привилегии.

Что же касается льгот ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил, то нет необходимости их отменять, потому что через два-три года они отпадут сами по себе, так как большая часть этих людей уйдет в мир иной. Люди старшего поколения, которым сегодня 70—80 лет, сделали все, что могли, для великой Страны Советов, для Республики Беларусь. И за это им следует низко поклониться.

И последнее. Уважаемый товарищ президент! Ветераны нашего города и района, как и всей республики, надеются на Вас. Так не допустите накануне великого и светлого праздника еще большего снижения жизненного уровня защитников родного Отечества. Было бы лучше, если бы Вы, а также Верховный Совет и Кабинет Министров нашли необходимые средства и достойно поблагодарили своих ветеранов в честь великого праздника — 50-летия Победы.

*Михаил ФИЛОНОВ,*
*заместитель председателя Борисовского городского совета ветеранов.*

# Новы храм асвяціў Філарэт

Раней прыхаджанам Свята-Нікольскай царквы даводзілася праводзіць богаслужэнні ў памяшканні былой школы-васьмігодкі. А вось нядаўна ў вёсцы Вялікая Ухалода Барысаўскага раёна адбылося асвячэнне новага храма.

Чын асвячэння святога храма правёў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі. Яму дапамагалі благачынны Барысаўскай акругі протаіерэй Іван Місюк, сакратар епархіяльнага ўпраўлення іераманах Іаан і настаяцель Свята-Нікольскай царквы свяшчэннік Міхаіл Барашка. На богаслужэнні прысутнічалі прадстаўнікі ўлад горада і раёна, а таксама мецэнаты, якія садзейнічалі будаўніцтву святога храма.

# ДАМОКЛАЎ МЕЧ НАД БІБЛІЯТЭКАМІ

## І вось-вось ён цюкне іх па самаму цемечку

Набалелыя праблемы бібліятэк Міншчыны, станоўчы вопыт іх работы сталі тэмай размовы за "круглым сталом", якая адбылася гэтымі днямі ў абласной бібліятэцы імя А.С.Пушкіна. Адкрыў сустрэчу народны пісьменнік Рэспублікі Беларусь, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры Іван Чыгрынаў. Невыпадкова ён папрасіў слова. Справа ў тым, што менавіта Фонд культуры два гады таму назад выступіў з ініцыятывай правядзення конкурсу "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры". Летась лаўрэатам такога рэспубліканскага конкурсу стала Уздзенская цэнтральная раённая бібліятэка імя П.Труса. А ганаровымі дыпломамі і бібліятэчкамі з аўтографамі вядомых пісьменнікаў адзначаны бібліятэкі: Мядзельская цэнтральная раённая, Маладзечанская і Слуцкая гарадскія дзіцячыя, Мінская гарадская імя Янкі Купалы, Залужскай сярэдняй школы Стаўбцоўскага раёна і інш. Іх кіраўнікоў і запрасілі на сустрэчу. Аб вялікай ролі бібліятэк у адраджэнні беларускай нацыянальнай спадчыны, яе далейшага памнажэння пераканаўча гаварыла дырэктар Мядзельскай цэнтральнай раённай бібліятэкі Людміла Несцяровіч. Тут стала традыцыяй кожны год праводзіць літаратурныя святы. Сёлета яго прысвяцілі жыццёваму і творчаму шляху свайго земляка — народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Разам з ім на ўрачыстасць прыехалі пісьменнікі Вячаслаў Рагойша, землякі мядзельцаў — крытык Генадзь Шупенька і народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч. У раёне праводзяцца конкурсы на лепшага бібліятэкара. Сёлета аб'яўлены конкурс на лепшы летапіс калгаса, прадпрыемства, школы, культасветустановы. Збор матэрыялаў для такіх рукапісных выданняў, несумненна, адкрые новыя старонкі гісторыі і культуры свайго краю.

А вось дырэктар Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэкі Клаўдзія Рогава з'явілася на сустрэчу са стосам кніг, выдадзеных у мясцовай друкарні. Гэта — паэтычныя зборнікі "Зямля мая, край маляўнічы", "Край мой там, дзе Нёман льецца", кніга вершаў "Чабаровая паляна" Віктара Сабалеўскага і інш. На іх старонках прадстаўлена творчасць маладых літаратараў Уздзеншчыны. У гэтым сціплым куточку беларускай зямлі нарадзіліся 16 прафесійных пісьменнікаў. Клаўдзія Антонаўна з упэўненасцю зазначыла, што многія з тых, чые творы надрукаваны ў названых кнігах, змогуць папоўніць сям'ю прафесійных літаратараў. Дырэктар бібліятэкі-лаўрэата падзялілася вопытам краязнаўчай работы. Дарэчы, на Уздзеншчыне праводзяць значную работу па стварэнню і ўзбагачэнню нацыянальных фондаў бібліятэк, укараненню народных святаў і абрадаў, па ўшанаванню імён лепшых прадстаўнікоў нацыянальнай культуры, правядзенню прэзентацыі новых кніг беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў, нотных зборнікаў і гуказапісаў беларускіх кампазітараў і выканаўцаў, твораў мастакоў.

З трывогай гаварыла аб нездавальняючым забеспячэнні нацыянальнай літаратурай такіх устаноў дырэктар Маладзечанскай гарадской дзіцячай бібліятэкі Ніна Артышэвіч. Адчуваецца востры недахоп слоўнікаў, вучэбнай, метадычнай і дзіцячай літаратуры. Многія творы ўключаны ў школьныя праграмы, а іх днём з агнём не адшукаць. У Маладзечне больш за 10 сярэдніх школ, а вось В.Дуніна-Марцінкевіча ў бібліятэцы толькі адна кніжка. Такі ж незайздросны лёс напаткаў пісьменнікаў З.Бядулю, І.Навуменку, Л.Дайнеку, А.Жука, чые праграмныя творы не дайшлі да юных чытачоў. Больш таго, у гэтай бібліятэцы, як адзначыла Н.Артышэвіч, з 16 стэлажоў толькі адзін заняты кнігамі на беларускай мове. Пры такім камплектаванні названая бібліятэка не хутка стане сапраўдным асяродкам нацыянальнай культуры. Незразумелая сённяшняя выдавецкая палітыка, бо амаль 90 працэнтаў кніг — гэта дэтэктыўная і прыгодніцкая літаратура ў асноўным замежных аўтараў. Калі мы гаворым аб нацыянальным адраджэнні, то трэба думаць аб тым, каб хутчэй увесці дзяржаўны заказ на лепшыя выданні, якія б садзейнічалі гэтаму адраджэнню. Нават тое, што выдаецца, нярэдка бібліятэкам няма за што выкупіць.

На сустрэчы за "круглым сталом" выступілі галоўны спецыяліст Міністэрства культуры і друку рэспублікі Тамара Папова, загадчыца аддзела мастацтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, старшыня савета садзейнічання бібліятэчнай справе Беларускага фонду культуры Людміла Кірухіна, намеснік дырэктара абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна Наталля Чуева і інш. Яны заклікалі дзяржаўныя ўлады павярнуцца тварам да бібліятэк, стварыць ім умовы для нармальнай дзейнасці, для выжывання. Прыведзеныя ў выступленнях прыклады сведчылі, што ў нашай незалежнай і суверэннай дзяржаве ідзе працэс разбурэння гэтых устаноў. Дамоклаў меч павіс над сельскімі бібліятэкамі. Многіх з іх ён ужо цюкнуў па самаму цемечку — закрыліся. Дыягназ вядомы: адсутнічаюць грашовыя сродкі. А ў вёскі ж гэтыя цяпер не ходзяць маршрутныя аўтобусы, тут перасталі дэманстраваць кінафільмы. Заставалася адзіная ўцеха — кніга. І той пазбаўляюць перабудоўшчыкі-дэмакраты. Дык хто ж адкажа: ці выжывуць асяродкі нацыянальнай культуры?

*Уладзімір КОБРЫН.*

# ДОМ, ДЗЕ НАРАДЖАЕЦЦА ТВОРЧАСЦЬ



Творчыя працуюць людзі ў Мінскім раённым цэнтры культуры. У сельскіх клубах часта можна бачыць спецыяліста па арганізацыі масавых святаў і канцэртнай дзейнасці Г.Я.Данскую, галоўнага хормайстра С.А.Каратышэўскага, харэографа А.К.Янкоўскага, рэжысёра Н.П.Гіжу. Менавіта з іх дапамогай у вёсках раёна створаны дзесяткі калектываў мастацкай самадзейнасці, гурткі разьбы па дрэву, мастацкай вышыўкі, мяккай цацкі. З 1969 года ў гэтым раёне працуе Алег Канстанцінавіч Янкоўскі. І ў кожным з 56 танцавальных калектываў яго добра ведаюць: адны арганізоўваў, другім перадаваў свой багаты вопыт, трэціх суправаджаў у гастрольных паездках... Некаторым яго калектывам прысвоена званне "народны".

— Заўсёды задаволены застаюся паездкамі да такіх кіраўнікоў танцавальных калектываў, як Ірына Палякевіч з Калодзішчаў, Тамара Жаўток з Чачкава, Ангеліна Суцько і Мікалай Харламаў (п. Лясны), Іна Карнішка з Анопаля, — гаворыць Янкоўскі. — Душа радуецца, што танцуюць у многіх і многіх вёсках, што наша славутая "Сенніца" ездзіць з канцэртамі за мяжу. Сталі дыпламантамі перадачы "Тэлебом" калодзішчанскія танцоры, чачкаўскія пабывалі ў Марыйскай рэспубліцы, у Дом настаўніка запрасілі на выступленне браўкоўцаў.

Работнікі цэнтра сабралі багаты відэаматэрыял, вядуць картатэку запісаў народнай творчасці. Да правядзення семінараў з культасветработнікамі запрашаюцца прадстаўнікі Беларускага універсітэта культуры, Інстытута праблем культуры. Такія сустрэчы спадарожнічаюць поспеху.

*Марыя МАЦЕЙКА.*

*НА ЗДЫМКУ:* інтэрв'ю на сцэне бярэ Г.Я.Данская.

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

